# Зьмест:



ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

ЛЮТЫ 1931

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09

4





Старшыня Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу ССР В. М. МОЛАТАЎ (Скрабін)

Да Ўсесаюзнага ЗЪЕЗДУ САВЕТАЎ

# Не з таго канца

Малюнкі Я. РАЗАНАВА



**Апавяданьне ТАРАСА ГУШЧЫ**

I

Хмуры асеньні дзень-інвалід саступаў месца шумнаму гарадзкому вечару. Тысячы людзей жывым патокам залівалі вуліцы і пабітыя, як воспаю, ямамі тротуары, дзе так лёгка наступіцца, ускочыць у калдабан і выкруціць ногі або насадзіць на галаву ёмкую шышку. У гэтым цёмна-шэрым людзкім патоку траляваў і малады пісьменьнік з чацьвертай катэгорыі, нясучы ў сабе тэму, плян і мэтоды яе распрацоўкі.

І вось-жа здараюцца часамі такія гісторыі з людзьмі, калі яны ідуць рознымі дарогамі, і раптам гэтыя дарогі перасякуцца ў якім-небудзь пункце, перакрыжуюцца, а вынікам такога перакрыжаваньня бывае з імі тая ці іншая праява.

Так было і з пісьменьнікам Чацьвярцінскім. Апроч яго ўласнай пісьменьніцкай дарогі, тут перасяклася яшчэ дарога двух рабочых і літаратурнага крытыка Ляшчоткіна. Пісьменьнік, як паказвае і само слова, пісаў. Крытык, вядома, крытыкаваў, накіроўваў мысьлі пісьменьніка на правільны шлях. Пры гэтым ён глыбока ўздыхаў, што „ў нас няма марксыцкай крытыкі“, забываючы аб тым, што такімі ўздыханьнямі ён зьніжае вартасьць свае ўласнае крытыкі. Для пісьменьніка-ж горш за ўсё было вось што: крытык адвёў яму чацьвертую катэгорыю пісьменьнікаў. І пісьменьніцкая і царабкопаўская катэгорыі чацьвертага вымеру аднакава прыкры для чацьвярціншчыкаў.

„Трэба вылезьці з гэтай паганай катэгорыі“—сказаў сам сабе Чацьвярцінскі і стаў думаць, як гэта зрабіць. Ён успомніў Ляшчоткіна і, кіруючыся яго крытычнымі трэбаваньнямі, намерыўся даць у сваім новым апавяданьні тып рабочага і паказаць яго быт. А каб апавяданьне мела большую жыцьцёвую праўду і мастацкасьць, то трэба дасканала выверыць той об'ект, аб якім ты хочаш пісаць. Вось гэтая мэта і кіравала цяпер Чацьвярцінскім.

Параўняўшыся з кіно „Чырвоная Зорка“, Чацьвярцінскі ўважна павярнуў галаву налева, каб ня мінуць тае экспэрымэнтальнае лябараторыі, дзе ён і думаў пачаць вывучэньне свайго об'екту і дзе быў намалёван дзябёлы кухель з пеністым півам.

Нізкая, цёмная, сырая, халодная, брудная, сьмярдзючая, працятая дымам і ўсялякімі чалавечымі парфумамі піўнушка была набіта бітком. Усе столікі былі густа аблеплены народам самых розных катэгорый. Сухі, высокі прыказчык і нізкая, тоўстая, як кухель, прыслужніца стаялі за доўгім сталом, не ўпраўляючыся адкаркоўваць бутэлькі. Пад шклянымі рамамі на гэтым стале маркотна ляжалі сухотнікі-тараны, селядцы, хлеб і тоўстыя скруткі кілбас, напамінаўшыя сабою гіганцкіх чарвякоў, загорнутых у дубовую кару.

Сакаліным вокам акінуў Чацьвярцінскі піўнушку. Вольнага месца ня было, а той малюнак, што раскрыўся перад яго зрокам, проста напрошваўся на палатно. Кожны столік і кожная група яго выпівак мелі сваясаблівую адзнаку і сваё харáство. Асобы, выпаўніўшыя тут сваю праграму процантаў на пяцьдзесят, вялі сябе даволі дынамічна, жыва і весела. Яны галасна гаварылі, махалі рукамі, выстаўлялі сабе з геройскага боку, пазіралі на пустыя бутэлькі, рабілі кароткую нараду і пасылалі па новыя кадры. Тыя-ж, што ўжо падганялі сваё заданьне к канцу, сядзелі панура, спусьціўшы на стол галавы, як-бы зьбіраючыся нарысаваць носам проект нейкага будынку. Язык іх варочаўся цяжка, налягаючы на літару „р“. Адным словам, гэта былі людзі, аб якіх можна сказаць словамі аднаго жартаўніка: „Чырвоныя па форме і вясёлыя па зьмесьце“.

II

Некалькі хвілін Чацьвярцінскі стаяў, разглядаўся. У глыбі піўнушкі, у прыхаваным кутку, сядзела за столікам двое сярэдніх лет мужчын. Іх адзежа, рухі, манеры і ўсё іхняе аблічча казала Чацьвярцінскаму за тое, што гэта—рабочыя ад станка, тое, чаго і шукаў пісьменьнік. Дзьве пустыя і дзьве поўныя бутэлькі сьведчылі аб тым, што выпіўка была толькі ў самым пачатку. Але калі-б Чацьвярцінскі зірнуў больш уважна на павесялеўшыя твары двух прыяцеляў, то ён лёгка праканаўся-б у сваёй памылцы.



**... У цёмна-шэрым натоўпу траляваў і малады пісьменьнік...**

— Таварышы! Можна да вас прысуседзіцца?—як толькі мага далікатна, ветла і пачціва запытаўся Чацьвярцінскі.

Абодва прыяцелі разам паднялі вочы на пісьменьніка. Першы з іх, што сядзеў бліжай, шырокі, чарнявы, наўперад акінуў поглядам суседнія столікі. Відаць, ён хацеў сказаць, што там ёсьць вольныя месцы. А як гэтых вольных месц не аказалася, то ён даволі сярдзіта пасунуўся і не сказаў нічога. Другі высокі, бялявы, наадварот, зірнуў на пустыя пісьменьнікові рукі і сказаў:

— Суседзтва то яно, суседзтва...

Чацьвярцінскі тым часам падсунуў крэсла, заняў месца і зараз-жа адказаў бляваму:

— Думаю, таварышы, на суседзтва маё наракаць ня будзеце.

І з гэтымі словамі шпарка паімчаўся к буфэту.

— Што гэта за ён такі? — буркнуў чарнявы, сурова і падазрона гледзячы на пісьменьніка.

— От... Хлоцец... пабачым...—па-прымірэнцку заўважыў бялявы.

— Ці яму сапраўды не знайшлося месца ці ён проста падсеў з якою-небудзь самакрытыкаю?

— А ліха яго бяры! Прынясе піва, дык вып'ем... Ня ўсё табе роўна?

— Вып'ем, а ня вып'ем, дык вон выпрам, — з філёзофскім спакоем згадзіўся чарнявы.

У адным не памыліўся Чацьвярцінскі: чарнявы, Гранкевіч, і бялявы, Тулайка, сапраўды лічыліся рабочымі з заводу. Гранкевіч значыўся ў графе прагульшчыкаў, а Тулайка меў славу лятуна.

— Калі суседзямі сталі мы, то суседкамі няхай будуць бутэлькі,—так сказаў Чацьвярцінскі і паставіў на стол шэсьць бутэлек піва.

— О!—пахваліў Тулайка,—гэта сказана добра.

Чацьвярцінскі зараз-жа наліў піва суседзям і сабе.

— Чаму я, таварышы, папрасіўся ў вашу кампанію?—загаварыў пісьменьнік, каб бліжэй азнаёміцца з суседзямі і завесьці з імі гутарку: — папершае, усе сталы заняты, а па-другое, сядзець аднаму ў наш час колектыўнага жыцьця і высокіх тэмпаў—проста няязручна і, па-трэцяе, вы мне спадабаліся, бо вы—рабочыя...

Гранкевіч і Тулайка чуць-чуць заварушыліся, як людзі, чыё імя праслаўляюць, а Чацьвярцінскі казаў далей:

— З рабочымі-ж мне хочацца пазнаёміцца бліжэй, увайсьці ў іхняе жыцьцё, думаць іхнімі думкамі, пазіраць на ўсё іхнімі вачамі...

— І ррабіць,—Гранкевіч падняў на Чацьвярцінскага ўжо трохі мутнаватыя вочы і замест далейшых слоў пачаў махаць рукою, а потым гутарку рукі зьмяніў словамі:

— Іхнімі ррукамі?—а ў гэтых словах чулася ня то згода, ня то злая насьмешка.

— І супроць гэтага нічога ня маю, — згадзіўся Чацьвярцінскі.

— На завод думаеш паступаць? — пацікавіўся Тулайка.

— Не, ня то што-б паступаць, але рабочымі наогул цікаўлюся: рабочыя — гэта тая галоўная, асноўная маса, якая пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі адыграе важнейшую ролю ў будаўніцтве соцыялізму. Рабочыя гэта—соль зямлі.

Гранкевіч і Тулайка скромна апусьцілі вочы, прычым першы з іх незаметна штурхнуў прыяцеля нагою, што азначала: „Дзяржы вуха востра!“

— А сам-жа ты хто? Якую должнасьць займаеш—запытаў цікаўны Тулайка.

— Я —пісьменьнік!—горда прагучэла гэта слова ў ціхім кутку сьмярдзючай піўнушкі.

Гранкевіч і Тулайка дрогнулі.

— Гэта што ў насьценных газэтах пішуць?—занепакоіўся Гранкевіч, а Чацьвярцінскі сарамліва казаў:

— Ну, калі здарыцца такі выпадак, то і пісьменьнік піша ў насьценгазэце, але ня гэта яго асноўная роля. Ён піша вершы-песьні, апавяданьні, романы,—адным словам—кнігі, зарысоўвае сучаснае жыцьцё, людзей, дае іх портрэты, выводзіць тыпы і ў такім пляне, каб усё гэта дапамагала соцыялістычнаму будаўніцтву... А можа, таварышы, закусім чаго?.. Да што я пытаю!

Пісьменьнік зноў папёр да буфэту, а Гранкевіч і Тулайка зірнулі адзін на аднаго, абмяняліся думкамі.

— Дае портрэты, выводзіць тыпы!—многазначна паківаў галавою Гранкевіч і задумаўся, апусьціўшы галаву, а потым стукнуў кулаком.

— Я табе такі выведу портрэт, што ты і сам сябе не пазнаеш.

— Кінь ты!—заступіўся за пісьменьніка Тулайка:—хлопец добры, пагаварыць любіць... Ну, няхай сабе піша!

— Піша! Так табе напіша ў газэтцы, што пальцам на цябе будуць паказваць.

— Адкуль ты ведаеш, што ён пра цябе напіша?.. Наадварот—можа якраз напіша ня так, як ты думаеш.

— Ш!.. дзяржы пяцігодку ў чатыры гады і больш—ні мур-мур!

Да стала падыходзіў Чацьвярцінскі, прапусьціўшы наперад прыслужніцу з талеркаю ў руках і з відэльцамі.

Налілі шклянкі. Стукнуліся. Выпілі. Выцерлі губы і вусы. Сталі закусваць.

— Становішча рабочых, на колькі я ведаю, паляпшаецца ў сувязі з павышэньнем іхняй продукцыі і працоўнай дысцыпліны.

— Што паляпшаецца, то паляпшаецца,—пацьвердзіў Тулайка.

— А скажэце, як шырока практыкуюцца ў вас соцыялістычныя мэтоды работы?

— Практыкуецца шыррока!—сказаў Гранкевіч і прыціснуў кулаком стол.

— Есьць у вас ударніцтва?

Гранкевіч уразумеў, аб чым ідзе гутарка. Глынуў кусок селядца, зноў згарнуў кулак і ўжо цьвёрда адрапартаваў:

— Ударрніцтва, соцспаборрніцтва, бррыгады, вытворрчыя манэўрры—пррактыкуецца!

— І сустрэчныя прамфінпляны,—дадаў Тулайка.

— І прромфінпляны.

— А колькі, так от, у сярэднім выганяе рабочы на вашым заводзе?

— А гэта, браце, як хто працуе. Больш зробіш, больш выганіш—нэйтральна зазначыў Тулайка.

— Я калі завіхнуся, па-ўдарніцку, то выганяю... ррублёў трыста!—пусьціў пылу на ўсякі выпадак Гранкевіч, згортваючы кулак.



...Чацьвярцінскі паставіў на стол шэсьць бутэлек...

— Ну, але-ж і прагулы бываюць на заводзе?

— Ад такіх элемэнтаў і опорртуністаў мы ррашуча адмяжоўваемся,—не маргнуўшы, адрэзаў Гранкевіч, згарнуўшы два кулакі.

У такіх прыблізна гутарках праходзіў час. А за гэты час Чацьвярцінскі яшчэ разы два адлучаўся да буфэту. Тады прыяцелі падміргвалі адзін аднаму, не адступаючыся ад свайго тэзісу—дзяржаць вуха востра. Гутарка, як паказалася пісьменьніку, вялася ў атмосфэры таварыскай згоды і ўзаемнага разуменьня. У яго галаве, хоць у ёй і шумела, складаўся плян абрысоўскі пэрсонажаў апавяданьня, прыходзілі вельмі трапныя мыслі, ахінаючыся ў дасканалыя слоўныя формы.

Цікавіўся Чацьвярцінскі і бытам рабочага і выказаў жаданьне паглядзець сваімі вачымі, як жыве рабочы дома, і суседзі яго пашлі яму цалкам насустрач. Пры гэтым Гранкевіч ізноў штурхнуў Тулайку нагою, а гэта значыла: матай на вус.

Апошні момант іх гутаркі быў прысьвечаны справе культуры.

— А якая работа праводзіцца ў вас на фронце культуры?

— Фронт культуры?—грозна патрос кулаком Гранкевіч:—горршага фрронту, як нямецкі фрронт, ты, бррат, і не пабачыш!.. не, не пабачыш!.. Ну, і ў нас ён, фрронт!.. Фрронт ці ня фрронт?—запытаў ён у Тулайкі.

— Фронт і які яшчэ фронт!

— А чаму фрронт? Ну?.. чаму фрронт?.. Эх, ядррыт тваю галаву!.. Фрронт!

Гранкевіч пакруціў галавою, заскрыгітаў зубамі, сказаўшы яшчэ раз:

— Фрронт!

## III

Няроўнаю паходкаю выходзілі яны ўсе трое з піўнушкі, падтрымліваючы адзін аднаго. Народ яшчэ густа плыў туды і сюды, нясучы з сабою свае думкі, свае інтарэсы. Мае тры героі спусьціліся ўніз. Ішлі доўга. Мінулі мост, павярнулі направа. Чым далей ішлі яны, тым цішэй і глушэй станавілася навокала. Выразьней выступала цёмнае, хмурае неба, і гусьцей агортваў цяжка навіслы мрок. Ідучы, яны больш маўчалі, або абмяжоўваліся кароткімі і самымі патрэбнымі словамі і выгукамі. Гарадзкі рух і шум заціхаў, глушэў і нарэшце зьмяніўся поўным бязьлюдзьдзем і маўклівасьцю ночы.

Чацьвярцінскі стараўся ўявіць сабе тую дамашнюю абстаноўку рабочага, якую ён зараз павінен пабачыць, але яны ўсё ішлі, і гэта хада яму стала надакучаць.

— Далёка-ж вы жывяце, таварышы, пачаў трохі непакоіцца ён, пабачыўшы, што яны выходзяць на нейкую цёмную, бязьлюдную акраіну ў раёне могілак.

— Кватэррны крызіс!—паясьніў Гранкевіч, не выпускаючы аднак яго рукі.

Сьледам за імі калыхаўся высокі Тулайка. Яшчэ прайшлі сажняў сто, пакінуўшы справа могілкі.

— Стой!—раптам скамандаваў Гранкевіч. Чацьвярцінскі пачуў, як жалезныя пальцы абхапілі рукаў яго паліта.

— Вось тут мы з табою пагаворым!—страшная пагроза пачулася ў голасе Гранкевіча, і голас яго стаў чысты і цьвярозы, а ўсё далейшае зрабілася так раптоўна і нечакана, што Чаць-

вярцінскі не пасьпеў і слова сказаць, як ён пачуў, што яму далі падножку і ў той-жа момант ён гопнуў вобземлю.

— Таварышы, браткі! За што?

— Маўчы!—з прыціскам сказаў Гранкевіч:—пытаўся ты ў нас, цяпер запытаемся мы.

— А ты кажы праўду: лепш будзе,— параіў пісьменьніку Тулайка.

— Браткі! Што вы да мяне маеце? Што вы са мною робіце?

— Маўчы, а то задушу!—яшчэ раз сказаў Гранкевіч, палажыўшы яго на сьпіну і прыціснуўшы яму рукі. Тулайка прытрымліваў яго за ногі.

— Гавары: на што гэта табе ведаць, як хто жыве? Га?—спытаў Гранкевіч.

— Я хацеў шчыра і праўдзіва напісаць пра героя-рабочага, паказаць яго з найлепшага боку...

Гэтыя словы кранулі Тулайку.

— А ня хлусіш ты? —запытаў ён, чуць аслабіўшы яму ногі.

— Зарэжце мяне тут, калі я кажу няпраўду!—шчыра і з жарам выгукнуў з зямлі Чацьвярцінскі.

— Не сьпяшайся з зарэзам,— разважліва азваўся Гранкевіча—а рэзаць мы цябе ня будзем, а выразаць што-небудзь можам,—факт!



... Страшная пагроза пачулася ў голасе Гранкевіча...

У беднага пісьменьніка сэрца апала, горача зрабілася, а бязьлітасны Гранкевіч не адступаўся.

— Хто цябе падаслаў?

— Браток, родненькі! Ніхто не падсылаў мяне!

Тут ён успомніў крытыка Ляшчоткіна. Ды што аб ім гаварыць?

— А портрэты і тыпы? Навошта ўсё гэта?

— Я-ж хачу іх вывесьці, паказаць з самага лепшага боку рабочага.

— Ведаем твае лепшыя бакі: прагульшчыка, лодыра —вось ты што хацеў вывесьці, выставіць на сьмех, каб потым прагналі чалавека, з саюзу выключылі.

— Таварыш, дарагі таварыш! Я-ж вас лічыў і лічу за найлепшых...

— А калі мы-прагульшчыкі?—пацікавіўся Тулайка.

— Аб гэтым я нічога ня ведаю, а калі-б і ведаў, то пісаць аб гэтым ня буду.

— Дык ты - прымірэнец, сукін ты сын!

Не, брат: факт астаецца фактам! зноў прыстрашыў Гранкевіч.

— Няхай дасьць прысягу, што ня будзе пісаць нічога дрэннага, параіў прыяцелю Тулайка.

— Даеш прысягу?—нарэшце зьлітаваўся Гранкевіч,

— Даю, таварышы!

— Дык глядзі, — рэзюмаваў Гранкевіч: — калі толькі дзенебудзь, калі-небудзь ты зробіш нам пакасьць сваім паганым пяром, то вот табе сьведка гэта ноч і могілкі: я дастану цябе са дна мора і зраблю тое, што на гэты раз дарую табе,—факт!

Вось гэтым самым нажом! — Гранкевіч паднёс пад самы нос Чацьвярцінскаму складаны ножык.

— А цяпер ідзі і не рабі людзям прыкрасьці!

Ён паставіў Чацьвярцінскага на ногі і зьлегка даў яму каленам.

# СЕЛЬКОРАМ

* * *

Вас шмат такіх—
З гарачым сэрцам...
У сьвітках вы
І з надзвычайна дужымі
Рукамі,
Што праўду нашых будняў
Выткалі
Нязграбнымі, а шчырымі
Радкамі.

* * *

Калі заціх за чаем
Сьпеў дажынкавы,—
Раскідалі лісты
Каштана...
Абсыпаны пушыстымі
Сьняжынкамі
Прышоў да нас ты
У сьвітцы саматканай.
Ня знаючы ні ямбаў
І ня дактыляў,—
Прышоў ты ад квітнеючых
Палетак
Маленькі гарадок...
А вырасла рэдакцыя;
Свая друкарня
І газэта.

І ўвечары, адзін
Перад газьнічкаю
Сядзіш з алоўкам
Доўга над паперай.
І допісы шумлівымі
Крынічкамі
У рэдакцыйныя
Пабеглі дзьверы.
Мы ў друкаваным
Штодэкадным аркушы
Пытаем аб прарывах
і прогрэсе.
Мы тэмпамі
сталёвымі і шпаркімі
Імчымся ў новае
Экспрэсам.

* * *

Вас шмат такіх...
З гарачым сэрцам...
У сьвітках вы,
І з надзвычайна
Дужымі рукамі.
Вы—
Праўду нашых
будняў выткалі
Нязграбнымі, а шчырымі
Рукамі.

А. РОЗНА.

# МАСЯНЖОВЫ ПАЖАР

З раніцы й да начы
возім снапы у гумны.
Зорная шыр—далячынь
сее глыбокую ўдумнасьць.
Спрыт нарадзіўся які
у парываньнях сумесных...
Што не зрабілі вякі,
робяць—паўгодзьдзе і месяц
Тут вось ня толькі палі,
межы дзірванныя роняць;
тут вось ня толькі ў калін
лісьце ў срабрыстым сузвоне;
тут вось ня толькі ў траве
роснае сьвежасьці многа,—
тут паўстае чалавек,
супроць сябе самога.
Громам патрэбна было
бурна прайсьці—пракаціцца,
каб у царкве білі лен,
кузьню зрабілі ў званіцы.
Грымніце громы ізноў,—
болю астачу зьмесьці.
Новаму—большы развой.
Новаму—большае месца.
З раніцы-ж мы да начы
поўнім колгасныя гумны,
Бронзай гарыць далячынь,
все настроем удумным.

С. ЛІХАДЗІЕЎСКІ.



## З А І Н Д У С Т Р Ы Ю!





# Комунары на пераможным шляху

Нарыс
Баз. РУМЯНЦА

В УНЬ два трактары ўздымаюць лемехамі дзірван. Гэта і ёсьць комуна „Чырвоная Зорка",—адказвае на маё запытаньне выпадкова спатканы на дарозе дзядзька, акідваючы мяне з ног да галавы хітраватым прыжмураным зіркам...— Багатая, кажуць, комуна, славіцца прыкладнай працай на цэлую ваколіцу...

— А вы скуль будзеце, дзядзька...

— Недалёка алгэтуль. З калгасу імя 1-га райзьезду колгасьнікаў, можа чуў? Колгас наш нядаўна організаваны па ініцыятыве комунараў з „Чырвонай Зоркі". Жывем цяпер колектыўна, працуем і не каімся, што паслухаліся комунараў...

Цікавае супадзеньне, падумаў я, калі разьвітаўся з дзядзькам. Адразу, яшчэ не пабыўшы ў комуне, напаткаў факт, які характарызуе да некаторай ступені дзейнасьць комуны. Пра організацыю колгасу імя 1-га райзьезду колгасьнікаў я чуў раней. Організавалі яго комунары, перакінуўшы адзінаасобнікам вёскі Бельчыцы свой вопыт, паставіўшы перад імі сваю справаздачу. Гэта ўжо само сабой гаворыць пра тое, што вопыт колектыўнай працы „Чырвонай Зоркі" можа запаліць імкненьнем да колектыўнага жыцьця адзінаасобнікаў.

Падыходзячы да комуны адразу неяк адчуваеш шырока разгорнутае колектыўнае будаўніцтва. Над самай Дзьвіною недалёка ад Полацку адбудоўваецца, расьце і пашыраецца „Чырвоная Зорка". Вялізарны жылы будынак, адрамантаваны былы абшарніцкі дом, ахутаны зелянінай пышнага саду. Каля саду канчаецца пабудова скотнага двара на 200 галоў. Высіцца над зямлёй высокая сілосная вежа на 400 тон зялёнага сакавітага корму для кароў. Новенькі, толькі што адбудаваны, красуецца сьвінарнік на 50 галоў, дзе ўжо гадуюцца сьвіньні іёркшырскае пароды.

Комуна організавалася сем год таму назад. Старшыня комуны тав. Будзько шырокаплечы прыземісты мужчына, партыец, успамінаючы гісторыю комуны, расказвае, ледзь прыкметна блытаючы канцы слоў:

— Гісторыя вось гэтае комуны такая-ж гісторая, як дзесяткаў іншых комун і колгасаў. Сюды на руіны панскага гнязда прышло 6 бядняцкіх сем'яў з сяла Экімань. Прышлі можна сказаць з голымі рукамі, ні кала, ні двара. Спрадвечнае поўжабрацкае існаваньне прыгнала сюды беднякоў. Ведалі яны, што паасобку ніяк не зажывешся. Адзіны выхад — гэта колектыў. Ну і аб'ядналіся, зразумела. Канешне пачатак колектыўнае працы не дакляраваў асабліва багатых пэрспэктыў. Ня было дастатковае маемасьці, каб адразу-ж стаць на ногі. Нават ня было дзе жыць. Жыльлёвыя будынкі былі разбураны, раскіданы. Прышлося пасяліцца ў адзіным, так сказаць, жылым памяшканьні—у куратніку. Цесна, брудна, няпрытульна, але нічога ня зробіш. Цьвёрда рашылі комунары дабіцца сваёй мэты, не паддавацца цяжкасьцям. Уся маемасьць тагочасная складалася з аднае каровы і аднаго каня. З гэтымі сіламі і распачалося існаваньне гэтае комуны. Узяліся комунары за апрацоўку зямлі. Узаралі і засеялі азімым жытам цаліну. Зімою адрамантавалі старую лесапілку і пусьцілі яе ў ход, зарабляючы гэтым самым кавалак хлеба на пражыцьцё. Калі зьнялі першы ўраджай, дык адразу ўбачылі, што перамога за імі. Ураджай удаўся. Тады ўжо пачалі дзейнічаць сьмялей. Атрымалі і крэдыт, закупілі насеньня, адрамантавалі старыя будынкі, купілі трактар. Адзінаасобнікі зьдзівіліся, даведаўшыся аб тым, што пашоўшыя ў комуну бедняк не прайгралі. Адразу стала расьці комуна. Пасыпаліся заявы ад адзінаасобнікаў. З гэтага часу і пачалася будзённая работа па наладжваньні комунарскага жыцьця. Патрабавалася шмат энэргіі, каб не падарваць свайго аўторытэту перад адзінаасобнікамі. І не падарвалі. Можаш сам цяпер бачыць вынікі шасьці адзінаасобнікаў, прышоўшых з голымі рукамі на руіны панскага маёнтку для будаўніцтва соцыялістычнае будучыні...

Словы тав. Будзько пацьвярджаюцца фактамі. Комуна вырасла, адбудавалася і задае тон колгаснаму будаўніцтву на ўсёй Полаччыне. З 40 сем'яў складаецца комуна, раскінутая на 440 гектарах зямлі. Жывёлагадоўчая частка комуны налічвае 78 коняй, 187 кароў, 55 сьвіней, 7 быкоў, 160 авечак і 20 цялят. Поўнасьцю комуна забясьпечана сельска-гаспадарчымі навейшымі машынамі. Складаная малатарня на дзіва ўсім малоціць збожжа і адразу-ж насыпае яго ў мяшкі. Чатыры жняяркі і дзьве касілкі на полі спраўляюцца куды лепш чым дзесяткі людзей. Забясьпечаньне комуны машынамі значна палегчыла працу комунараў, ранейшых адзінаасобнікаў, якія пралівалі свой пот на адзінокіх засьмечаных нівах.



Гадуюць сьвіней

Іншае жыцьцё - цячэ на былых абшарніцкіх палёх. Зранку над комунарскімі палямі гулка разносяцца пераліўныя гудкі лесапілкі. Гэта—покліч на работу. Як на вытворчасьці, на прадпрыемстве дзе-небудзь—ідзе ў комуне праца. Дысцыпліна ўзорная. Шырока разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва і ўдар-

ніцтва. 12 ударных брыгад, на якія разьбіты комунары, вядуць работу па розным галінам колектыўнае гаспадаркі. Паміж імі заключаны ўмовы па соцспаборніцтву, ініцыятарам якога зьявілася комсамольская ячэйка. У час мінулагодняй уборачнай кампаніі комунары працавалі ня лічучыся ні з выхаднымі днямі, ні з лішнімі гадзінамі. Як вынік гэтага уборка праведзена раней чым па другіх колгасах, якія потым „Чырвонай Зоркай" былі ўзяты на грамадзкі буксір. З такім-жа сапраўды ўдарным энтузіязмам праведзена асеньняя сяўба.

Мала гэтага. Комунары ўзяліся за шырокае разгортваньне калгаснага руху па раёну. Амаль ня кожны дзень кастрычніка месяца скарыстоўваўся для правядзеньня сходаў аднаасобнікаў, на якіх ставілася справаздача комуны. Аднаасобнікі актыўна абгаварвалі справаздачу і потым падавалі заявы аб прыёме ў комуну. Так быў арганізаваны колгас імя 1-га раённага зьезду колгасьнікаў. Значна папоўніліся шэрагі і саміх комунараў.

Ударнае выкананьне ўсіх гаспадарча-палітычных компаній паставіла комуну наперадзе ўсіх другіх колгасаў Полацкага раёну. Менавіта за гэта комуна атрымала ўсебеларускую прэмію на конкурсе лепшых колгасаў.



... Урачысты выезд у поле калгасьнікаў ...

З комунараў „Чырвонай Зоркі" выкоўваюцца сапраўдныя энтузіясты колектыўнага жыцьця. Вось для прыкладу комунарка Ксеня Маркевіч. У мінулым яна гарапашная бяднячка. Калі-ж прышла ў комуну, адразу ўзялася па-інакшаму працаваць. Па яе ініцыятыве ўсе комунаркі абвясьцілі сябе ўдарніцамі і з гонарам выконваюць гэтую назву. Не дарэмна-ж Ксеня Маркевіч атрымала ордэн працоўнага сьцягу. Таксама атрымаў ордэн працоўнага сьцягу і старшыня комуны тав. Будзько Якуб, праявіўшы надзвычайныя організатарскія здольнасьці пры разьмеркаваньні абавязкаў, і наогул пры правядзеньні комунарскай працы.

— Так і жывем,—ухмыляецца тав. Будзько, паказваючы комунарскую гаспадарку,—будуем, значыцца, сьветлую колектыўную будучыню...

Комуна „Чырвоная Зорка" ідзе наперадзе колгаснага сэктару на Полаччыне.

# КОЎЗАНКА

Звонкі вечар
ёмкі лёд.
—Зябнуць плечы
—Поўны ход.

Ш-шых, ш-шах—
на нажах.
Тонкай зьмейкай—
на хоккейках.
Спрыт юнг-штурму—
на фігурных.

Поўны ўдых.
Глыбей выдых.
Маладых,
думных,
спрытных—
Паспрабуй,
дагані,
калі
зоры высака.
Ня віні
сумятні,
што так
склі-і-іска-а.

———

Ухапіў за нос,
Прышчаміў нагу..
Даганяй, мароз.
— Бя-ягу-у.

Ш-шых, ш-шах—
на нажах.
Тонкай зьмейкай—
на хоккейках.

Спрыт юнг-штурму—
на фігурных.
Мэталіст, мэталіст.
Я—паперніца.
Трэці круг праплылі,
мо' завернемся?
Ну цьвярдзей,
не задавай.
Шпар
на высьціг.
Ра-аз.
Два-а.
Ра-аз.
Два-а.
— Паваліўся...

———

Без парфум і акрас
ружавеюць твары.
Не для нас,
таварышы час
гэтыя тавары.

Ёсьць—
халодная вада:
рукі з мылам чыста.
А пасьля
трэба даць
Слова зубачысткам.
Бо ў вечар
тахт—
едзем на нажах.
Бо увечар—
зьмейка—
едзем на хоккейках.
Бо у вечар—
штурмам—
едзем на фігурных

———

Роўны цягліц ход,
роўны сэрца стук.
Спробны пераход
за вярстой вярсту.
Каб ня пудзіў стрэл
сына ніў і шахт,
каб бадзёрных стрэў—
заўтра наш варштат,
каб старонкі кніг,
у рэтортах газ,
пераплыў, цягнік
слухаліся нас—
шырся моц грудзей,
набівай нагу.
Эстафэтны дзень,
правярай бягу.
Ў плаўных рухах дзён,
парабіл і хорд,—
трэніруй жыцьцё,
пролетарскі спорт.

**Максім ЛУЖАНІН**








# X УСЕБЕЛАРУСКІ

ПЭРЫЯД ад IX да X Усебарускага зьезду саветаў зьяўляўся пераломным для Савецкага Саюзу, а ў тым ліку і для Савецкай Беларусі, як неразрыўнай яго часткі, а таксама і для капіталістычнага сьвету.

Для Савецкіх рэспублік гэты перапом адзначыўся ўступленьнем у пэрыод соцыялізму з гіганцкім разгортваньнем соцыялістычнага будаўніцтва. У капіталістычных краінах гэты перапом адзначыўся глыбокім рэзкім экономічным заняпадам.

У іх—глыбокі гаспадарчы крызіс, дзесяткі мільёнаў беспрацоўных. У нас—шырокае разгортваньне соцыялістычнага будаўніцтва, бязупынны і гіганцкіх маштабаў экономічны росквіт. Крок за крокам, упэўненым поступам, у цесным саюзе і пры падтрыманьні ўсяго СССР, Савецкая Беларусь ідзе па шляху перамаганьня экономічнай і культурнай адсталасьці—спадчыны царызму па шляху магутнага ўздыму вытворчых сіл краіны на соцыялістычнай аснове.

Посьпехі разгорнутага соцыялістычнага наступленьня былі дасягнуты выпрабаваным кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў жорсткай барацьбе з клясавым ворагам, у барацьбе за чыстату генэральнай лініі партыі, супроць усялякіх ухілаў і асабліва правага, як найбольш небясьпечнага на даным этапе, супроць „левакоў" і фракцыянэраў з беспрынцыпнага права-„лявацкага" блёку.

X Усебеларускі зьезд саветаў вуснамі т. Галадзеда, які рабіў справаздачу ўраду БССР, канстатаваў, што ўпершыя два гады пяцігодкі соцыялістычная прамысловасьць БССР сапраўды паказала бальшавіцкія тэмпы, перавыканаўшы пляны пяцігодкі за гэтыя гады на 33,2 проц. Фактам вялізарнейшай гаспадарча-політычнай важнасьці, бліскучым доказам правільнасьці генэральнай лініі партыі зьяўляецца поўная ліквідацыя беспрацоўя як у БССР, так і ва ўсім Савецкім Саюзе.

Батрацтва, бедната і асноўныя масы серадьнякоў сталі на адзіны верны шлях—шлях колектывізацыі. 17 процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР ужо будуюць новае жыцьцё на соцыялістычных падставах.

Магутная хваля колгаснага прыбою ўздымаецца ўсё вышэй і вышэй. Гэта дае падставы ўпэўнена заявіць, што колектывізацыя 45 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на працягу 1931 году будзе пасьпяхова выканана.

X Усебеларускі зьезд саветаў сабраўся тады, калі мы ўступілі ў трэці рашаючы год пяцігодкі, у год калі будзе скончана пабудова фундамэнту соцыялістычнай экономікі, у год, у якім бальшавіцкія тэмпы, сцэмэнтаваныя гранітнай воляй працоўных, пасьпяхова вырашаць перамогу пяцігодкі.

Адпаведна задачам гэтага рэконструкцыйнага пэрыяду тав. Гэй у сваім прывітаньні ад імя ЦК КПБ вызначыў задачы саветаў:

— Ня можа быць у рэконструкцыйны пэрыяд такога сельсавету, —кажа т. Гэй, — такога РВК, які-б зараз, у





момант напружанай работы, абмяжоўваў свае функцыі—функцыямі адміністрацыйна-тэхнічнымі, ня можа быць такога становішча, калі партыйныя, комсамольскія і прафэсыянальныя організацыі працуюць, скажам, у вёсцы па выкананьню таго або іншага заданьня, праводзяць жывую грамадзкую работу, выезды, растлумачэньні, цэлы шэраг мерапрыемстваў, а ў гэты час сельсавет, або РВК заставаліся-б у баку ад гэтай справы, уяўлялі-б з сябе толькі канцэлярскую адміністрацыйна-тэхнічную адзінку, якая піша і выдае загады і, так сказаць, рэгіструе работу гэтых грамадзкіх і партыйных організацый. Ня можа быць такога становішча зараз... Савет павінен, засучыўшы рукавы, не па папяроваму, а энэргічна, настойліва, актыўна працаваць над ажыцьцяўленьнем тых задач, якія стаяць перад органамі Савецкае ўлады. Гэта задача—узмацніць ролю саветаў у ажыцьцяўленьні генэральнай лініі партыі—шчыльнейшым чынам, вядома, зьвязана з ачышчэньнем саветаў ад права-опортуністычных элемэнтаў, ад „левых" загібшчыкаў. Ня можа быць кіраўніком саветаў правы опортуніст, або прымірэнец, якія не ажыцьцяўляюць генэральнай лініі партыі, якія актыўна не праводзяць барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва.

Тав. Гэй пералічае шэраг далейшых задач, якія паўстаюць перад саветамі ў гэтым пэрыядзе. Гэта—стварэньне новага, масавага актыву на фабрыках і заводах у асобе ударнікаў, у вёсках у асобе колгасьнікаў—байцоў за соцыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, рашучая і пасьлядоўная барацьба з бюрократызмам, шырокае разгортваньне самакрытыкі, шырокае ўцягненьне беспартыйных у савецкую работу і шэраг іншых.

Работы X зьезду саветаў саўпалі з XIII гадавінай Чырвонай арміі. Наша слаўная Чырвоная армія ня раз дэманстравала перад усім сьветам сваю загартованасьць, сваю моц, баяздольнасьць, яна паказала, што цьвёрда стаіць на варце межаў—СССР.

У барацьбе супроць СССР імпэрыялісты імкнуцца абаперціся на контррэволюцыйныя элемэнты ўнутры нашае краіны. Гэта найбольш яскрава выявілася пры выкрыцьці дзейнасьці контррэволюцыйнай групы беларускіх нацыянал-дэмократаў.

Клясавая сутнасьць контррэволюцыйнай беларускай нац-дэмократычнай групы, якая ставіла стаўку на кулака, нэпмана, выступаючы з лёзунгам „адраджэньня" буржуазнай Беларусі, заключаецца ў барацьбе за аднаўленьне капіталізму ў нашай краіне, за ператварэньне Беларусі Савецкай — у Беларусь буржуазна-капіталістычную, фашысцкую. Выкрыцьцё гэтай контррэволюцыйнай групы агентуры польскага фашызму выклікала надзвычайнае абурэньне самых шырокіх мас рабочых, батрацтва, бедната, колгасьнікаў і ўсіх працоўных, якія больш згуртаваліся вакол компартыі для барацьбы за абарону сваёй пролетарскай бацькаўшчыны, для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

Абгаварыўшы ўсе пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва, X Усебеларускі зьезд Саветаў сваімі пастановамі яшчэ больш мобілізуе працоўныя масы пад кіраўніцтвам партыі для таго, каб саветы Беларусі былі сапраўднымі барацьбітамі за генэральную лінію, за завяршэньне пабудовы фундамэнту соцыялістычнай экономікі ў нашай краіне, за ўзмацненьне абараназдольнасьці краіны і баяздольнасьці Чырвонай арміі, за баявыя бальшавіцкія тэмпы ў рабоце.



Дасьледчык Бьюель піша, што яму тубылец Сайд Уі ў Пхарзонскай акрузе сказаў: „Я аддаў у заставу (залог) сэржанту Джоні Вільямсу дачку і сына пакуль ня выплачу 13 фунтаў стэрлінгаў і 10 шылінгаў".

Джадз Гаус з Конгі быў аштрафаваны на 18 фунтаў стэрлінгаў за дрэнны догляд дарогі, ня маючы чым заплаціць, ён аддаў у заставу сваю жонку і дзяўчынку за 7 фунтаў. Яны знаходзяцца ўжо 5 год у заставе і ён ня мае ніякіх надзей выкупіць іх.

Джоні Кар, глава тубыльцаў у горадзе Бэнганоу, быў аштрафаваны і два гады таму назад аддаў у заставу жонку і фэрму, але і зараз ня мае ніякіх шансаў выкупіць іх.

Закон 1925 г., які разглядаецца, як конституцыя галяндзкай Усходняй Індыі, прадугледжвае прымусовую працу для ўсіх галін гаспадаркі. Прымусовая праца амаль для ўсіх тубыльцаў ужываецца вельмі шырока. Толькі на тэрыторыі берагавых провінцый, якія знаходзяцца пад простым наглядам дзяржавы, у адным 1925 г. агульная колькасьць людзей, мобілізаваных на выкананьне прымусовае працы, складала 1.366.485. Агульная колькасьць дзён прымусовае працы, да якой было прыцягнута тубыльнае насельніцтва берагавых провінцый, складала ў 1925 г. 14 385.620 чалавека-дзён.

сусьветны пролетарыят. Дзесяткі і сотні чужаземных інжынэраў і рабочых, якія працуюць у СССР, у сваіх заявах і лістох катэгорычна адхіляюць гэтую хлусьню.

Так, ня вераць гэтаму рабочыя за мяжой. І недарма ў адказ на выбрыкі рабаўласьнікаў пролетары ўсяго сьвету яшчэ больш актыўна выступаюць у нашую абарону. Кожны раз, калі імпэрыялісты атакуюць СССР, сусьветны пролетарыят яшчэ больш цесна згуртоўваецца вакол будаўнікоў социялізму.

У дакладзе камісіі Фіша мы знаходзім надзвычай характарныя ісьціны, якія мы лічым патрэбным тут прывесьці. Дае паказаньні правадыр амэрыканскай компартыі т. Фостэр.

Старшыня Фіш: Я зразумеў, што рабочыя Амэрыкі лічаць Савецкі Саюз сваёй бацькаўшчынай. Ці так абстаіць справа?

Фостэр: Так, паколькі справа датычыцца больш сьвядомых рабочых,

Фіш: Яны бачаць у Савецкім Саюзе сваю бацькаўшчыну?

Фостэр: Так.

Фіш: Яны лічаць савецкі сьцяг—сваім сьцягам?

Фостэр:-Рабочыя нашае краіны і рабочыя ўсяго сьвету прызнаюць толькі адзін сьцяг. Гэта—чырвоны сьцяг, сьцяг пролетарскай рэволюцыі. І ён быў між іншым, спачатку сьцягам амэрыканскай рэволюцыі. Чырвоны сьцяг быў сьцягам рэволюцыі і перад расійскай рэволюцыяй...

Ва ўмовах капіталізму рабочы зьяўляецца нявольнікам, або карыстаецца свабодай... паміраць з голаду. Праца ва ўмовах социялістычнага будаўніцтва зьяўляецца „справай гонару, справай адвагі справай геройства".

Факты—упартая рэч. Мы тут прыводзім прыклады нявольніцтва ў іх і прыклады геройскае працы, социялістычнага энтузіязму ў нас, у СССР. Няхай факты гавораць за сябе.

ставаліся тут-жа спаць на рыштаваньнях, каб у любую мінуту прысьці на дапамогу. Іх гналі, каб ішлі адпачываць, але батальён застаўся на рыштаваньнях. Досыць сказаць, што яны пацягнулі за сабой старых, што ўначы, калі былі ўзарваны правады і пагасла сьвятло, старыя Марусін, Арэхін і комсамольскі батальён засталіся да золаку, каб скончыць заліваць бэтонам цэх.

Комсамолка Пачыкава яскрава падкрэсьлівае значэньне штурмавых начэй.

„Я хочу сказаць, що дивчата не видсталі и вид того витра, який кружив на 8-й делянци; вони не видстали вид будивництва, яке деялось на 8-й делянце.

В штурмовую ничь як один группа Поляковой не сходила 4 доби в механичного цеху.

„Дивчата моей группы святкували раниш рождество, пасху та инши свята, але такога свята, як закинчине цеху воны николе не почували".

На мэталюргічным заводзе імя Сталіна (Ленінград) выкананьне програмы 2-га году пяцігодкі знаходзілася пад пагрозай. Тады комсамольцы парашылі арганізаваць ударную брыгаду па выпуску адзіннаццацітысячнай паравой турбіны раней тэрміну, вы начанага заводзкім кіраўніцтвам, на 10 дзён. Працуючы ўдарнымі тэмпамі круглыя суткі, ня выходзячы з цэху, комсамольцы выпусьцілі турбіну ва ўстаноўленыя імі самімі тэрміны, тым самым далі магчымасьць заводу ня толькі выканаць, але і перавыканаць прамфінплян.

ФОТА-ЭЦЮД.



# ГАНДЗІЗМ І ЯГО КЛЯСАВАЯ СУТНАСЬЦЬ

Нарыс **А. ВАЛЬДАМАРАВА**

ІНДЫЯ яшчэ і да гэтага часу завецца „дыямэнтам у кароне яго вялікасьці караля Вялікабрытаніі“. І завецца яна так таму, што вось ужо 150 год, як ангельская буржуазія, якая акупавала сваімі войскамі Індыю, выціскае з яе ўсе сокі, таму—што вось ужо паўтара стагодзьдзі, як кучка, галоўным чынам, ангельскіх банкіраў, разам з індыйскай буржуазіяй, эксплёатуе ,з выключнай жорсткасьцю, трохсотмільёньныя масы індускіх рабочых і сялян.

Падзеленая на часткі запалоненая рэлігійнымі забабонамі Індыя даўгі час цярпела зьдзекі і эксплёатацыю ангельскіх акупантаў. Кіраўнічая ў Індыі каста—магараджы (князі). Шляхецтва і духавенства, якія добра аплачваюцца ангельцамі, гралі на руку акупантам. Акроч таго, яны самі жорстка эксплёатавалі і дапамагалі эксплёатаваць акупантам працоўныя масы Індыі. Індуская буржуазія да вайны не адчувала пад сабой яшчэ дастаткова моцнай экономічнай базы, каб выступіць у спаборніцтва з ангельскімі гандлярамі і фабрыкантамі, каб прад'явіць ім свае „права“ на эксплёатацыю прыродных багацьцяў краіны і яе працоўнага насельніцтва. Што-ж належыць да рабочых і сялянскіх мас — парыяў, як іх у Індыі завуць, дык, як мы гаварылі ўжо вышэй, гэтыя многамільённыя працоўныя масы даўгі час знаходзіліся ва ўладзе рэлігійных забабонаў, даўгі час ня бачылі правільнага шляху барацьбы, даўгі час нясьлі на сваіх плячох эксплётацыю сваіх і замежных абшарнікаў і капіталістаў.

„Я бачу вялізарнае насельніцтва Індыі“,—пісаў яшчэ ня так даўно ангельскі гісторык Сілі,—„на працягу цэлых стагодзьдзяў прыгнечанае да зямлі пад цяжкасьцю самых ганебных пакут. Індусы ня ўзьнімаюць сьцягу паўстаньняў. Калі яны ня могуць жыць, дык паміраюць. Калі могуць жыць хоць як-небудзь, дык жывуць, задавальняючыся тым што ёсьць. Іх пачуцьці прытуплены. Іх жаданьні расьціснуты нявыносным жыцьцём“.

Так было да вайны 1914-1918 г. Але імпэрыялістычная вайна шмат зьмяніла як у экономіцы Індыі, так і ў псыхолёгіі яе працоўных мас. За час вайны ў Індыі было пабудована многа фабрык і заводаў, патрэбных саюзьнікам для вытворчасьці зброі, амуніцыі і г. д. Калі да вайны Індыя была толькі краінай, якая давала Англіі сыравіну, дык у часе вайны і асабліва пасьля яе яна пераварочваецца ў краіну, якая ня толькі дае сыравіну, але гэту сыравіну ў сябе апрацоўвае.

Нараджаецца, мацнее індуская буржуазія. Яна ўжо з зайздрасьцю глядзіць на шматмільённыя багацьці ангельскіх капіталістаў. Яна ўжо лічыць, што гэтыя багацьці могуць застацца ў сярэдзіне краіны, г. зн. іначай гаворачы—у яе кішэнях. Яна ўжо лічыць, што эксплёатаваць рабоча-сялянскія масы Індыі можна без дапамогі і бяз удзелу ангельскіх капіталістаў.

Шмат чаму навучыла імпэрыялістычная вайна і „парыяў“—рабочых і сялян Індыі. Пад Вэрдэнам, пад Суасонам, у Шампані, у Вогезах і пад Рэймсам у крывавых бойках яны адчулі яшчэ лепш усе прыгажосьці буржуазнай „культуры“, буржуазнай „павагі“ да чалавека. З другога боку, пабываўшы ў Эўропе, яны пабачылі другое жыцьцё, яны пабачылі, што жыць можна лепей, чым яны жылі да гэтага часу ў Індыі, у сябе на бацькаўшчыне, пад дыктатарскім ботам ангельскіх акупантаў. Яны быць-можа ў першы раз адчулі, што яны таксама людзі, што яны таксама маюць права палуднаваць кожны дзень, жыць не пасабачаму.

Імпэрыялістычная вайна абудзіла рабочыя і сялянскія масы Індыі. Яна паставіла перад імі ва ўвесь узрост дылему барацьбы супроць прыгнятальнікаў як замежных, так і сваіх. У зьвязку з экономічнымі і гістарычнымі прычынамі барацьба гэта „першага пэрыяду нацыянальна-вызваленчага руху“ мае рэлігійную форму. Правадыры, кіраўнікі гэтай барацьбы часта паўстаюць у сьвядомасьці яшчэ ўсё—культурна адсталых мас Індыі, як „махамці“, як „сьвятыя“.

Такім „махамці“ (дакладна „вялікая душа“), такім „сьвятым“ у сьвядомасьці індускіх народных мас быў і першы агульна прызнаны ў Індыі політанскі правадыр Гандзі.

* * *

У канцы XIX і ў пачатку XX стагодзьдзя сярод эўропэйскай грамады (галоўным чынам арыстократыі і буржуазіі) карысталася вялікім посьпехам рэлігійна-філёзофскае вучэньне — так званая тэософія. Тэософы вучылі, што чалавечая „душа“ жыве на зямлі многа разоў, што яна праходзіць усе стадыі разьвіцьця, пачынаючы ад жывёлы і канчаючы чалавекам.

Разам з вучэньнем аб „уасаленьні“ душ вялікім посьпехам карыстаецца ў тэософаў вучэньне аб „карме“, аб „лёсе“. Па гэтаму вучэньню ўсё „абумоўлена“ сваім мінулым, усё мае сваю, з пункту гледжаньня тэософаў, лёгічную падставу. Калі ты бедны, калі цябе эксплёатуюць, калі ты галадуеш—ня злуйся, не змагайся, не зайздросьці тым, хто шчасьлівейшы за цябе. Значыць для ўдасканаленьня тваёй „душы“ патрэбна адчуць усю пакуту беднасьці, увесь цяжар эксплёатацыі. Але за тое ў будучым жыцьці ты будзеш нечым другім, або можа-быць у мінулым жыцьці ты быў ужо якім-небудзь Рокфэлерам, або Фордам.

Ці варта, нават, тлумачыць клясавую сутнасьць вучэньня тэософаў. Трэба толькі адно сказаць ясна, што гэта вучэньне (як і ўсе другія рэлігіі) служыць буржуазіі і эксплёататарам.

Дык вось гэтым самым вучэньнем у сваёй маладосьці моцна захапіўся і малады індускі студэнт, які вышаў з дробна-буржуазнага асяродку, Гандзі, калі ён скончыў сваю вышэйшую юрыдычную асьвету ў Оксфордскім унівэрсытэце Вялікабрытанскага каралеўства

Пасьля сканчэньня унівэрсытэту Гандзі вяртаецца на бацькаўшчыну і ідзе ў брамінскі манастыр каля Бамбея, дзе і канчаткова выпрацоўвае сваю рэлігійна-філёзофскую сыстэму (так званы гандзізм), якая ўяўляе з сябе сумесь індускіх філёзофскіх выказваньняў эўропэйскай тэософіі і хрысьціянскага эвангельля.

Ува што-ж верыць, што прызнае Гандзі? Ён прызнае існаваньне мноства багоў і існаваньне „духаў-дапаможнікаў“. Ён прапаведуе культ „боскай маткі“. Ён верыць у „уасабленьне душ“ і ў закон „кармы“. Ён прызнае „промысел божы“, які, па думцы Гандзі, „кіруе сьветам“. Адсюль і дапалізм гандзізма, што пры перакладзе на політычную мову азначае адабрэньне існуючай соцыяльнай няправільнасьці, адабрэньне каставай сутнасьці індускай грамады, адмаўленьне ад актыўнай барацьбы за лепшае будучае працоўных мас.

„Падзел на касты ўласны чалавечай прыродзе“, — вучыць Гандзі сваіх пасьлядоўцаў,—„усе народжаны для пэўнага служэньня“. Браміны (індускае духавенства. *А. В.*) служаць багам сваімі ведамі, вайсковыя сваёй сілай, гандляры — комэрцыйнай хітрыкай, рабочыя — працай. Нікому з іх няма патрэбы зайздросьціць другому“.

А вось яшчэ: „несупраціўленьне злу прыгнётам куды вышэй прыгнёту. Прабачэньне патрабуе больш мужнасьці чым пакараньне“.

А вось што гаварыў Гандзі, калі пад націскам рэволюцыйна-настроеных мас, частка Усеіндыйскага конгрэсу (орган буржуазіі і прогрэсыўнай інтэлігенцыі), старшынёй якога ён быў, патрабавала ад яго больш энэргічнай і рэальнай, — чым „несупраціўленьне“ і „грамадзянскае паслухмянства“, барацьбы супроць ангельскіх акупантаў:

„Вы жадаеце“ сказаў ён на конгрэсе „барацьбы і прыгнёту? у такім выпадку выходзьце з конгрэсу, стварайце сабе новую партыю. Хай народ вырашае хто яму патрэбен, хай народ выбірае ці мяне, ці вас“...

Такі Гандзі і вось такое яго рэлігійна-філёзофскае вучэньне. Зусім зразумела цяпер чаму гэта рэлігійнае вучэньне варожа дыктатуры пролетарыяту і марксызму-ленінізму. Зусім зразумела цяпер, чаму і гэта вучэньне (як і ўсе другія рэлігійныя сыстэмы) служыць справе буржуазіі, дапамагае ёй абдурваць головы рабочых і сялян рэлігійнымі байкамі, дапамагае ёй эксплёатаваць працоўныя масы Індыі—гэтага „дыямэнту ў кароне яго вялікасьці караля Вялікабрытаніі“.

„Такія тэндэнцыі як індускі гандзізм, які ўвесь перапоўнены рэлігійнымі ідэямі, які ідэалізуе найбольш рэакцыйныя і адсталыя формы соцыяльнай экономіі, які бачыць выйсьце толькі ў звароце гэтых адсталых форм, які прапаведуе пасыўнасьць і адмаўленьне клясавай барацьбы, становіцца, пры разьвіцьці рэволюцыі, сілай ясна рэакцыйнай. Гандзізм ёсьць ідэолёгія ўсё больш і больш варожая масавым народным рэволюцыям. Комунізм павінен энэргічна змагацца супроць яе“.

Так характарызуе гандзізм VI конгрэс Комінтэрна, так заклікае ён усіх комуністаў, усіх рабочых і працоўнае сялянства

весьці энэргічную барацьбу супроць варожага ўплыву індускага „махамці“. Гэта характарыстыка правільная, бальшавіцкая характарыстыка, ніякіх, з нашага пункту гледжаньня, дадаткаў не патрабуе.

* * *

Калі мы коратка прагледзім усю палітычную дзейнасьць Гандзі за апошнія гады, калі мы разьбярэм яго позыцыі, яго адносіны да рэволюцыйных падзей у Індыі, дык і тут мы пабачым, што Гандзі ўвесь час шкодзіць працоўным масам сваёй краіны, што ўся яго дзейнасьць накіравана на дапамогу буржуазіі (ангельскай, індускай) у яе барацьбе супроць нарастаючай у Індыі рэволюцыйнай хвалі, у яе барацьбе супроць законных патрабаваньняў многамільёнңых мас індускіх рабочых і сялян.

Гандзі займае прымірэнчую, у адносінах да ангельцаў, позыцыю. Калі частка членаў гэтага Ўсеіндыйскага конгрэсу патрабавала больш рашучых дзеяньняў, Гандзі выступіў з рэзкай прамовай протэстантам, заявіўшы ім: „вы жадаеце барацьбы і прыгнёту? Хай народ выбірае ці мяне, ці вас“...

Ня іначай як здрадай справе рабочых і сялян Індыі можна назваць і так званы „саляны паход“, організаваны Гандзі ў сакавіку-красавіку месяцы мінулага году. Саляны падатак цяжка адгукваецца на індускіх працоўных масах. Вось чаму, калі Гандзі даў сыгнал да адмаўленьня аплаты ангельцам гэтага зусім не популярнага салянога падатку, працоўныя масы Індыі з захапленьнем адгукнуліся на яго заклік. Але ў той час, калі Гандзі стаяў на тым, каб гэты процэс насіў толькі моральны характар, каб ён выяўляўся толькі ў паказаным протэсту, працоўныя масы Індыі ўзьнімаюць паўстаньне, разьбіваюць ангельскія магазыны, зьбіваюць і разганяюць каменьнямі і кіямі ўзброеныя атрады ангельскіх салдат, а ў Пешавары ангельскі гарнізон нават у паніцы аслабаняе горад, які на працягу трох тыдняў застаецца ва ўладзе паўстанцаў.

Гандзі піша лісты віцэ-каралю Індыі лорду Ірвіну, у якіх просіць выбачэньня. Ён заклікае працоўныя масы Індыі спыніць барацьбу. Так па-здрадніцку вядзе сябе Гандзі ў дні, калі вырашаўся лёс індускіх працоўных мас, калі, быць можа, вельмі блізка быў час перамогі гэтых мас над замежнымі, абрыдлымі акупантамі.

Трэба заўважыць яшчэ не адну характарную рысу гандзізма. Гандзі супроць тэхнічнага прогрэсу, ён заклікае сваіх пасьлядоўцаў да мінулых прымітыўных форм жыцьця, да саматужнай прамысловасьці. Эмблемай гандзізма зьяўляецца малюнак ручной пралкі. У стагодзьдзе разьвіцьця тэхнікі, у стагодзьдзе вялізарных дасягненьняў у гэтай галіне заклік да звароту саматужнай прамысловасьці, заклік да адмаўленьня ад тэхнічнага прогрэсу ярка паказвае ўсю рэакцыйную сутнасьць гандзізма, усю яго ня толькі нікчэмнасьць, але і варожасьць справе вызваленьня працоўных мас з-пад улады капіталу.



* * *

І так, гандзізм глыбака рэакцыйны па сваёй сутнасьці, клясава варожы рэволюцыйнаму руху мас рабочых і працоўнага сялянства. Дзейнасьць Гандзі ў Індыі дапамагае ангельскай і індускай буржуазіі, таму што ён сваёй слюнявай тэорыяй „несупрацiўленьня“, сваёй агітацыяй супроць рэволюцыйнага наступу толькі зьбівае з правільнага шляху рабоча-сялянскія масы Індыі, толькі паслабляе іх волю да барацьбы. Вось чаму VI конгрэс Комінтэрна ў сваёй програме і характарызуе гандзізм зьявай рэакцыйнай, вось чаму наш штаб сусьветнай рэволюцыі заклікае ўсіх комуністаў, усіх рабочых і працоўных сялян на барацьбу супроць гандзізма, на яго выкрыцьцё.

Але гандзізм зразумела не зьяўляецца якім-небудзь выключэньнем з астатніх рэлігійных сыстэм і культаў, якія ўсе (кожная ў сваёй галіне і адпавядаючым асяродку) варожы дыктатуры пролетарыяту, якія ўсе служаць інтарэсам капіталістаў, якія ўсе без выключэньня зьяўляюцца заклятымі ворагамі комунізму.

# ФАБРЫКА—ШКОЛА

Нарыс Д. Оршына



ВУЛІЦА Лекерта, якая ляжыць паміж двума найвялікшымі заводамі „Бальшавіком“ і „Энэргіяй“, ужо стварае строгую індустрыяльную атмосфэру.

Вуліца і заводы амаль што зусім падышлі да чугункі. За пераездам жа адразу прыгараднае поле

І тут асабліва характэрны для нашых дзён пяцігодкі наступ каменю, жалеза, дымагарных труб і электраправодаў на задворкі гораду.

Год таму назад тут былі пустыя, закіданыя рознай дрэньню пляшчадкі і бясрпытульныя гароды з цыбуляй і рэдыскай. А сягоньня з аднаго боку горда, быццам прэміраваны ўдарнік, стаіць цукерачная фабрыка, вымалёўваючы кругом па небу дымныя істужкі, а з другога—шэрагі новых слупоў, праз жалезныя пявучыя драты, нясуць да аграмадных карпусоў швэйнай фабрыкі імя Крупскай электрычную энэргію.

Абед.

Між карпусоў фабрыкі і сталовай густы разнакалёрны струмень. Тут большасьць жанчын.

Маладыя твары, праменістыя вочы...

У сталоўцы адчуваецца нейкае нездавальненьне. Чутны галасы.

— Ну і коопэрацыйная камісія... Няўжо гэта абеды? Вось на „Пролетарыі“ абеды лепшыя—гаворыць белакуры хлапец.

— Хутка будзе свая кухня і ў нас,—гаворыць жанчына,—тады будзе лепш.

Ідзем са старшым майстрам у корпус.

Фабрыка ў часе хады хутчэй падобна на чытальню, чым на фабрыку.

Па баках доўгіх, крокаў па 200, сталоў, на адлегласьці мэтру адзін ад другога, сядзяць швэйнікі, нахіліўшыся над прыробленымі да стола машынамі.

Блішчыць на стале матэрыя і монотопна, быццам, пчолы, гудзяць машыны.

Прастор ля столі не перапоўнен трансмісіямі—электравод экономіць месца для паветра.

Праўда тут многа і сьвятла, і паветра.

Малюнак, калі ў белашвэйнай майстэрні ля мяшынкі адзіночкі, закіданая краёным паркалем, сядзела „модыстка“ з нажніцамі, з сантымэтрам, абкалотая іголкамі, якая давала больш часу прымерцы частак, прыкройцы і прымётцы, чым шыла,—зьнік назаўсёды.

Адзіночак зьмяніў конвэер, або як завуць тут: агрэгат.

Конвэер—стол з сотняй машынак і машыністаў разьмеркаваў патроху паміж усімі часткі агрэгату—кашулі або кальсоны. Кожнаму для выкананьня часткі адведзена 80 сэкунд. Хутка пускаецца новы агрэгат жаночай бялізьне.

Стандарт стварыў конвэер і ён-жа зьнішчыў закройшчыкаў.

На закройным „агрэгаце“—стале выцягнута і накладзена друг на друга матэрыя, таўшчынёю сантымэтраў да 5-ці. Прыкладваюць зьверху часткі стандартаў лекала, абводзяць алоўкам, лоўка, экономна, прыкладаюць лекала к лекалу, нават абрэзкаў не застаецца. А рэзальшчык з электрычнай пілкай ідзе па намалёваным лініям разрэзае адразу матэрыю таўшчынёю ў пяць сантымэтраў.

Старшы майстра гаворыць, паказваючы на рэзальны інструмант.

— Не дакладны інструмант, цяпер ёсьць больш дакладныя, а гэтыя падчас падводзяць.

Спускаемся ніжэй. Некалькі таварышоў спыняецца.

— А ў рамонтным цаху былі?

— Былі.

— Не забудзьце: добрых манцёраў няма, але і тых, якія ёсьць не хапае. Бываюць прастоі, конвэерная-ж сыстэма гэта... тут патрэбна хуткая зьмена.

Драўляны корпус глуха аднатонна гудзіць.

Людзі цалкам захоплены працай, але ў момант кідаюць словы.

— Таварыш... Трамвай патрэбен сюды.

— Ляхаўка...

— Канфэтная фабрыка, а пакуль ідзеш з дому—ногі адламваюцца.

Дырэктар, малады, гадоў 30-ці, таварыш падтрымлівае неабходнасьць трамваю.

— Тысача чалавек у дзьве зьмены, цяжка без трамваю.

Ідзе па двары ў сталовую.

— Да нас тут была фабрыка цацак:—гаворыць дырэктар,—у маі мінулага году был створан замест цацачнага—швэйны цэх, з выключнай задачай—шыць спэцвопратку.

— Працавала 170 чалавек. Да восені штат вырас да 450 чалавек. У кастрычніку Наркампрацы перадаў вытворчасьць Белшвэйаб'яднаньню і зараз, як бачыце, у нас 1.000 чалавек з поўнай нагрузкай.

Вы бачыце тут ня проста фабрыку, а фабрыку-школу.

Асноўная лінія нашай работы—гэта падрыхтоўка кадраў.

У апошні час наглядаюцца і пераходы на другія фабрыкі.

Так рабочыя, напрыклад, атрымаўшы кваліфікацыю, ідуць і на „Кастрычнік“ і на провінцыяльныя нашы фабрыкі і ў Міншвэй.

Да студзеня мы працавалі на нажных машынах, а ў студзені ўсю вытворчасьць перавялі на электраэнэргію.

Як вытворчасьць Белшвэйаб'яднаньня, за апошні квартал мы выканалі прамфінплян поўнасьцю, зрабіўшы 65.000 паліто.

З першага студзеня наша фабрыка перайшла выключна на бялізну.

# ПА Чырвонай Беларусі



**КОЛГАСЫ** рыхтуюцца да другой бальшавіцкай вясны.



**У КОЛГАСЕ:** Пролетарскія цэнтры будуць мець мяса.



**НА ЗДЫМКАХ:** „Машына будзе верным дапаможнікам у выкананьні заданьняў пролетарыяту“.





**НА ЗДЫМКАХ:** Лясы вялізнай нячуванай дагэтуль стройкі соцыялізму.



Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

Падпісвайцеся на часопіс

Часопіс „МАЛАДНЯК“
з 1931 году
будзе выходзіць пад назвай

# НАСТУП
# NASTUP

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

НАСТУП
NASTUP

**У 1931 годзе**

частка аддзелаў часопісу рэорганізуецца і будуць уведзены аддзелы: „РАБОЧАЯ КРЫТЫКА“, „ЛІТАРАТУРНАЯ КОНСУЛЬТАЦЫЯ“ і інш.

**У 1931 годзе „НАСТУП“**

дасьць шэраг аповесьцяй поэм на тэмы: змаганьне за прамфінплян, вытворчасьці і колектывізацыі.

**У 1931 годзе „НАСТУП“**

зьмесьціць шэраг артыкулаў аб замежных літаратурах; нямецкай, венгерскай, баўгарскай, славенскай, чэскай, польскай і інш. Будуць зьмешчаны артыкулы аб пролетарскай літаратуры РСФСР, Украіны і Закаўказьзя.

**У часопісу „НАСТУП“**

бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры БССР і выдатнейшыя прадстаўнікі пролетарскай літаратуры Савецкага Саюзу і заграніцы.

**Умовы падпіскі:**

| 12 мес. | 6 мес. | 3 мес. | Асобны нумар |
|---|---|---|---|
| 5 руб. | 3 руб. | 1.50 к. | 60 кап. |

**Падпіска прымаецца:**

У аддзеле Падпісных і Пэрыодычных Выданьняў, МЕНСК, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і Упаўнаважанымі БДВ, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажывецкай коопэрацыі.

Цана 15 кап.





# СЭКТАР КНІГАРАСПАЎСЮДЖВАНЬНЯ

## „МАСТАЦКАЕ СЛОВА—МАСАМ“

„Сэрыя“ зьмяшчае мастацкія творы лепшых беларускіх пісьменьнікаў і пераклады лепшых мастацкіх твораў з расейскай мовы.

ЦАНА КОЖНАЙ КНІЖКІ АД 20 ДА 90 КАП.

Продаж утвараецца ва ўсіх кнігарнях: Белдзяржвыдавецтва, Спажыўкапэрацыі і Саюздруку ва ўсіх раёнах Беларусі.

### Вышлі з друку ў 1930 годзе

1. Іл. Барашка. Рыгор Галота 62 стар. Цана 20 к.
2. Зьм. Бядуля. Дзесяць 92 стар. Цана 35 к.
3. „ „ Тры пальцы 90 стар. Цана 35 к.
4. Я. Купала. Песьня байка 60 стар. Цана 40 к.
5. М. Мурашка. Прыгранічны манастыр 92 стар. Цана 30 к.
6. В. Сташэўскі. Па сонечным шляху 92 стар. Цана 40 к.
7. К. Чорны. Нянавісьць 60 стар. Цана 34 к.
8. М. Лынькоў. Гой (апавяданьне) 72 стар. Цана 30 к.
9. Зьм. Фурманаў. У восемнаццатым годзе 110 стар. Цана 35 к.
10. А. Чэхаў. Дзіваکі-нябожчыкі 160 стар. Цана 45 к.

Галоўлітбел № 1031. Заказ № 418. Друкарня імя Сталіна.